Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№9(621) 1 сакавіка 2012 года.

Кошт свабодны.





Фота Яўгена Самсонава

Прыгожа, весела, цікава адсвяткавалі жыхары і госці горада Глыбокае Масленіцу, якая адбылася 26 лютага на беразе возера Белае.

## Шаркоўшчынскі раён

# Чужой бяды не бывае

■ Станіслаў Раманчук

**Нядаўняя зімовая трагедыя ў вёсцы Вялікае Сяло, што ў Шаркоўшчынскім раёне, з гібеллю на пажары двух хлопчыкаў ва ўзросце 3 гадзікаў, нікога не пакінула раўнадушным.**

Па даручэнню кіраўніка краіны сюды прыехаў разбірацца ў прычынах страшнай бяды нават Генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк. Яшчэ раней тут пабываў і кіраўнік Віцебскай вобласці Аляксандр Косінец, які сустрэўся з пагарэльцамі, пацікавіўся, у якіх умовах цяпер пражываюць чацвёра старэйшых дзяцей ад 5 да 10 гадоў. Яны ў той страшны дзень былі на занятках у школе і засталіся жывымі, знайшлі прытулак у сваіх родных у гэтым жа населеным пункце. Канчатковых вывадаў аб прычынах жыццёвай трагедыі генпракурор рабіць не стаў, але ў абласным цэнтры заявіў, што з боку мясцовай улады сістэмных памылак і недаравальных промахаў не было. Для гэтай сям'і мясцовыя кіраўнікі зрабілі ўсё, што было ў іх сілах. Нагадаем, што калі адбылося гэта вогненнае здарэнне, маці малых пакінула на кароткі тэрмін адных у закрытым доме і пайшла, па яе словах, у магазін. Суседзі ўбачылі дым, які валіў з вокан і даху будынка, выклікалі пажарных, але выратаваць дзяцей было немагчыма. Дарэчы, штогод у Беларусі паўтараюцца падобныя беды і здараецца, гіне ў агні за гэты перыяд нават цэлы клас. Бацькі і родныя немаўлят не павінны проста пакідаць малых без нагляду, тады і не будзе новых трагедый.




## Пастаўскі раён

# Зноў на вышыні

■ Кастусь Александровіч

**Заўсёды высокая якасць прадукцыі" – такой з'яўляецца рэкламны дэвіз прадукцыі Пастаўскага малочнага завода.**

Аб гэтым зноў узгадалі нядаўна на цырымоніі ў Віцебскім аблвыканкаме, дзе ўзнагароджвалі лаўрэатаў нацыянальных конкурсаў "Лепшыя тавары на рынку Беларусі" і "Лепшыя тавары РБ 2011 года на рынках РФ". Уручаючы такія ўзнагароды пастаўчанам, першы намеснік кіраўніка вобласці Уладзімір Навацкі заўважыў, што іх брэндавы тавар – цвёрды сыр "Тызенгаўз" прызнаны сырам № 1 у Беларусі. Пазалетась на прадпрыемстве ў сырным цэху правялі паглыбленую рэканструкцыю, адкуль пайшлі новыя сыры без дабавак з улікам вопыту еўрапейскіх сыраробаў. Прадукцыя завадчан вельмі запатрабаваная, як і новы сыр для аматараў піцы "Мацарэла-Прэміум" і сувенірная ўпакоўка "Сырны гасцінец з Беларусі". Усяго ж на заводзе цяпер выпускаецца больш за 20 відаў сыроў, распрацавана рэцэптура яшчэ дзвюх навінак гэтага года цвёрдых сыроў "Пармезан Гранд" і "Груер". Пакуль жа вытворчыя магутнасці дазваляюць завадчанам выпускаць толькі да 2 тон сырных прадуктаў у суткі. Таму завод прыкупіў каля 2 гектараў зямлі, каб узвесці дадатковы сырны міні-завод, будаўніцтва якога ўжо вядзецца. Закуплена для гэтай вытворчасці навейшае абсталяванне заходніх фірм. Як спадзяюцца на прадпрыемстве, ужо ў наступным годзе тут па сучасных аўтаматызаваных тэхналогіях пачнуць выпускаць сыроў да 20 тон у суткі. Пры гэтым новыя тэхналогіі больш энергаэфектыўныя, зберагаюць столькі цяпла, што дастаткова забяспечыць іх вытворчасць гарачай вадой.

## Глыбоцкі раён

# Загарэлася фура ля вёскі

■ Чэслаў Якубовіч

**Якіх толькі розных здарэнняў на заснежаных дарогах вобласці не прынесла сёлетняя халодная зіма, якая забрала даволі шмат жыццяў суайчыннікаў.**

А ў Глыбоцкім раёне прыйшлося днямі тушыць нават незвычайны пажар, калі падчас руху па трасе на Полацк загарэўся грузавы аўтамабіль "Сканія" з расійскімі нумарамі. Кіроўца фуры не разгубіўся і на пад'едзе да вёскі Карабы выклікаў па дапамогу пажарных. Супрацоўнікі райаддзела МНС аператыўна прыбылі сюды і ўбачылі слупы дыму з кузава грузавіка. Яны хутка ліквідавалі ўзгаранне і з пажарам справіліся. Як мяркуецца, ён узнік найперш з-за тэхнічных праблем транспартнага сродку, паколькі калёсы фуры нейкі час сталі церціся аб яе кузаў. Праўда, большая частка груза – душавых кабінак-, якія перавозілі з Калінінграда ў Маскву, не пацярпела. Было пашкоджана агнём толькі 6 іх упаковак. Таксама расійскай фірме прыйдзецца замяніць частку пашкоджанага агнём тэнта і падгарэлага борта прычэпу машыны. Праз некаторы час пасля гэтага інцыдэнту фура прадоўжыла свой маршрут. Дарэчы, апроч гэтага пажару на дарозе з пачатку года на Віцебшчыне было зарэгістравана яшчэ 232 вогненныя здарэнні, што на 12 % болей, чым было летась у аналагічны час. Полымя забрала сёлета жыцці 33 чалавек, агнём былі знішчаны 29 розных будынкаў, 5 галоў жывёлы і 9 тон кармоў.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 01.03.12 | | | | Пятніца 02.03.12 | | | | Субота 03.03.12 | | | | Нядзеля 04.03.12 | | | | Пнд. 05.03.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | 0 | +2 | +1 | +1 | +1 | +3 | 0 | -1 | -1 | 0 | -1 | -2 | -3 | -1 | -3 | -4 | -3 | 0 |
| Ціск | 748 | 748 | 749 | 748 | 747 | 744 | 741 | 743 | 744 | 743 | 743 | 746 | 750 | 751 | 753 | 754 | 755 | 753 | 751 |
| Вільготнасць | 93 | 96 | 90 | 93 | 94 | 97 | 91 | 75 | 81 | 81 | 81 | 89 | 84 | 81 | 69 | 80 | 90 | 77 | 57 |
| Вецер м/сек | 1 З | 3 Ю-З | 3 Ю-З | 5 Ю-З | 5 Ю | 6 Ю-З | 5 З | 8 С-З | 9 С-З | 9 С-З | 10 С-З | 9 С | 7 С | 5 С | 5 С | 1 С | 0 ШТЛ | 2 Ю-З | 5 Ю-З |

# Лічба нумара

## 38%

гадавых – да такой адзнакі Нацыянальны банк з 1 сакавіка зменшыў стаўку рэфінансавання. Апошнім часам сітуацыя ў айчыннай эканоміцы крыху палепшылася, галоўнае, што на працягу апошніх двух месяцаў рост цэн зменшыўся да штомесячнага ўзроўню каля 2%, стабільным заставаўся і курс беларускага рубля. Такія станоўчыя тэндэнцыі і дазволілі банкірам пачаць паступовае зніжэнне ўзроўню ставак, бо насельніцтва актыўна зноў панесла свабодныя сродкі ў банкі, растуць рублёвыя дэпазіты і тэрміновыя ўклады грамадзян.

Калі і надалей сёлетні год будзе складвацца нармальна ў эканоміцы, то да канца 2012 года гадавая банкаўская стаўка можа знізіцца да 20-22 % гадавых. Таму найбольш верагодна, што і ў далейшым стаўкі пойдуць уніз і будуць зніжацца. На мінулым паседжанні беларускага ўрада нават загаварылі аб устойлівай і бездэфіцытнай працы бюджэтна-фінансавай сістэмы Беларусі і новых паступленнях замежнай валюты ў краіну. У суверэннай гісторыі беларусаў яшчэ не было такіх вялізных памераў золатавалютных рэзерваў, як цяпер, і быццам сфарміраваны бездэфіцытны дзяржбюджэт сёлета.

Гэтаму садзейнічала зніжэнне цэн на энерганосьбіты, якія закупляюцца ў Расіі. Адначасова кіраўніцтва краіны ўвяло на гэты год рэжым жорсткай эканоміі сродкаў. Да прыкладу, за перарасход электраэнергіі і мясцовых відаў паліва айчынныя прадпрыемствы будуць плаціць па двайному тарыфу. Вытворцы павінны знізіць спажыванне іх сёлета не меней чым на 5 % у параўнанні з 2011 годам, арганізацыям ЖКГ штомесяц сталі ўстанаўліваць заданні па скарачэнню спажывання паліва. Адначасова ўзмоцнены кантроль за захаваннем бюджэтнай дысцыпліны і перагледжаны ў бок скарачэння спісы ўзводзімых аб'ектаў, малочных комплексаў, жылых дамоў з цэнтралізаваным крэдытаваннем.

Хто зараз хоча будавацца, разлічвай найперш на ўласныя сілы, рэсурсы і на камерцыйныя крэдыты банкаў. Ва ўрадзе РБ прызнаюць, што ўнутры краіны свабодных грошай мала і трэба разлічваць многім на замежныя крэдытныя лініі. Айчынная банкаўская сістэма ў стане забяспечыць эканоміку падтрымкай у межах 27-36 трыльёнаў рублёў і разам з рэсурсамі прадпрыемстваў аб'ём крэдытавання эканомікі ацэньваецца сумай у 5 млрд. USD. Вось толькі для развіцця народнай гаспадаркі патрабуецца сёлета грошай у 3 разы болей. Быццам не збіраюцца ў нас болей друкаваць пустых грошай і спадзяюцца ва ўрадзе РБ прыцягнуць дадатковыя сродкі з дапамогай прыватызацыі (летась так у эканоміку дабавілася 3 млрд. долараў, але ў асноўным за кошт продажу расіянам "Белтрансгазу").

Аднак цікава, як гэтага збіраюцца ў нас дабіцца, паколькі было заяўлена, што і сёлета Беларусь устрымаецца ад продажу буйных сваіх прадпрыемстваў. Тым часам пачаліся размовы аб вяртанні да ўзроўню зарплаты 500 долараў. Праўда, прамым тэкстам такая сума даходаў суайчыннікаў не агучваецца, ставіцца задача дасягнуць да канца года "дакрызіснага ўзроўню пакупніцкай здольнасці даходаў насельніцтва" з абавязковай увязкай яго з ростам прадукцыйнасці працы.

Але існуе апасенне, што ў Беларусі зноў будзе болей размоў, чым канкрэтных вынікаў. Наша краіна ўпарта адкладвае лібералізацыю сваёй эканомікі і пераход да рынку, на сваіх асноўных рынках збыту сутыкнецца сёлета з павелічэннем канкурэнцыі, бо рускія і затым казахі стануць членамі Сусветнай гандлёвай арганізацыі. Незразумела, на якой аснове можна нам дабіцца якаснага росту беларускіх тавараў і мадэрнізацыі вытворчасці, калі наяўных сродкаў малавата. Нават нашы партнёры па АЭП адмовіліся ад татальнага дзяржаўнага рэгуліравання эканомікі, а ў Казахстане нават рэальная зарплата апярэджвае беларускую ўжо ў 2 разы.

Вось Грэцыі, якая сутыкнулася з рэальнымі цяжкасцямі, Еўропа дапаможа выйсці з крызісу. Беларусы сёння эканамічныя аўтсайдары на кантыненце, самыя бедныя і не могуць разлічваць на такую падтрымку. Цудаў у эканоміцы не бывае і не будзем забывацца пра тое, што Беларусі сёлета трэба будзе накіраваць 1,6 млрд. долараў для разлікаў па раней узятых замежных сваіх даўгах.

## Дзень за днём

**Сёлета ў студзені цэны ў Беларусі за месяц яшчэ выраслі на 1,9 %, адначасова спыніўся і рост ВУП. З-за гіперінфляцыі летась заробкі беларусаў апусціліся на ўзровень 2009 года і сталі складаць толькі трэць расійскіх і палову зарплат казахаў, бедных людзей у РБ у мінулым годзе стала болей на 30 %. У Беларусі працягваецца татальная палітыка русіфікацыі: ужо толькі 10 % кніг друкуюцца на беларускай мове. Толькі за паўмесяца моцных халадоў з рознымі абмаражэннямі было шпіталізавана больш 200 беларусаў. Такой халоднай зімы, як сёлета, не было ў нас чвэрць стагоддзя, з 1985 года, зноў могуць вымерзнуць асобныя сады.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Адразу 6 краін-членаў Савета супрацоўніцтва дзяржаў Персідскага заліва адклікалі адсюль паслоў, раней сваіх дыпламатаў выклікалі для кансультацый 4 буйныя краіны ЕС.

**Грэцыя.** Краіну зноў захіснула хваля масавых акцый пратэсту і забастовак супраць палітыкі зацягвання паясоў, паніжэння зарплат і пенсій, каб пазбегнуць дэфолту.

**Чэхія.** Сенат краіны зацвердзіў папраўкі да Канстытуцыі краіны, якія прадугледжваюць з 2013 года ўсенародныя выбары прэзідэнта па - новаму замест галасавання ў парламенце.

**Украіна.** Урад пачаў перамовы з ЕС аб пастаўках украінскіх сыроў пасля ўведзенай Расіяй у духу імперскай палітыкі забароны на ўвоз у РФ гэтай прадукцыі украінскіх вытворцаў.

**Венесуэла.** Беларуская кампанія "Белзамежбуд" змагла здаць за год пад ключ толькі 720 (4 %) кватэр з 17,5 тысяч абяцаных, разгарэўся скандал, бо РФ і Іран кантракты выканалі.

**Бірма.** У адказ на дэмакратычныя рэформы і вызваленне новым урадам палітвязняў з турмаў ЗША адмянілі эканамічныя і палітычныя санкцыі, уведзеныя супраць краіны.

**Швецыя**. Бурную рэакцыю і пратэсты прафсаюзаў выклікала прапанова прэм'ер-міністра Фрэдрыка Рэйнфельта павялічыць пенсійны ўзрост для шведаў да ўзросту 75 гадоў.

**Кыргыстан.** СМІ краіны паведамілі, што экс-прэзідэнт Курманбек Бакіеў услед за атрыманнем грамадзянства Беларусі набыў дом з участкам зямлі пад Мінскам за 2 млн. $.

**Германія.** МЗС краіны абурыўся адмовай улад РБ ва ўездзе ў Беларусь упаўнаважанага ўрада ФРГ па правах чалавека Маркусу Лёнінгу з мэтай дапамагчы ўсім палітвязням.

**Расія.** На прэзентацыі сваёй кнігі "Развітанне з ілюзіямі" тэлежурналіст У. Познер заявіў, што выклікаюць глыбокае шкадаванне падзеі, якія адбываюцца ў Беларусі і яе дух СССР.

**Славакія.** Прэм'ер-міністр Івета Радзічава намінавала за сумленнасць асуджанага летась беларускага праваабаронцу Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міра 2012 года.

**Італія.** Упершыню за 80 гадоў у Венецыі замерзлі знакамітыя каналы горада, аднак маразы не перашкодзілі правядзенню сусветна вядомага традыцыйнага карнавала.

**ЗША.** На сваёй радзіме ў горадзе Ньюарк, штат Нью-Джэрсі пахавалі суперзорку сусветнай эстрады Уітні Х'юстан, яна памерла ў 48 гадоў, пакутавала ад наркотыкаў.

**Францыя.** Малады 25-гадовы выпускнік БДУ мінчанін Вадзім Курсевіч бліскуча выйграў у горадзе Довіле Еўрапейскую покерную серыю разам з 875 тысячамі еўра прызавых.

**Расія.** Народны артыст СССР Іосіф Кабзон паведаміў пра завяршэнне кар'еры спевака пасля завяршэння юбілейных развітальных гастроляў, прымеркаваных да яго 75-годдзя.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У сувязі з дрэнным фінансаваннем спынілася будаўніцтва 2-й акружной дарогі даўжынёй 157 км вакол сталіцы з 4-палосным рухам у абодва бакі для транзітных аўто.

**Астравец.** З дрэннай прыкметы пачалося будаўніцтва Беларускай АЭС, з-за няспраўнасці электрасетак абагрэву раніцай загарэлася бытавое памяшканне, але людзі не пацярпелі.

**Лагойск.** У выніку выбуху днём газу ў ваенным інтэрнаце на тэрыторыі раёна загінуў 1 чалавек, 4 былі паранены, цалкам быў разбураны 2-гі пад'езд 3-павярховага будынка.

**Жодзіна.** ААТ "БелАЗ" павялічыў за год на рэкордную ў сваёй гісторыі суму 1 млрд. $ аб'ёмы продаж сваіх кар'ерных самазвалаў грузападымальнасцю ад 90 да 360 тон.

**Баранавічы.** У вялікія маразы тэмпература паветра ў шрагу палат мясцовай гарбальніцы з-за старых драўляных вокнаў апусцілася да 10-12 градусаў, зато тут ёсць Лядовы палац.

**Мінск.** Летась у РБ з дапамогай дзяржавы, як пацвердзіла 1-ы намеснік Мінсельгасхарча Н. Каткавец, узвялі 87 сучасных ферм, але прырост вытворчасці малака склаў толькі 1,6 %

**Барысаў.** Раніцай на заводзе БАТЭ рабочыя правялі папераджальную забастоўку супраць нізкіх зарплат, хваляванні назіраліся на баранавіцкім "Атланце", у Пінску на "Палессі".

**Валожын.** Пасля забойства браканьерамі на тэрыторыі раёна яшчэ з зброяй Мінлясгас правёў экстранае пасяджэнне калегіі міністэрства і шраг кадравых чыстак упраўленцаў.

**Мінск.** "Белаўтадар" пацвердзіў, што ў сярэдзіне ці ў канцы 2013 года пасля заканчэння рэканструкцыі трас мяркуецца зрабіць платнымі дарогі з Мінска ў абласныя цэнтры.

**Светлагорск.** Жыхароў 70-тысячнага горада занепакоіла рашэнне ўрада пабудаваць тут да 2015 года завод белянай цэлюлозы на 500 рабочых месцаў шкодных для акружаючага асяроддзя.

**Баранавічы.** У лакаматыўнае дэпо прыбылі са Швейцарыі апошні 4 электрапоезд фірмы Stadler для рэгіянальных ліній, па кантракту сёлета паступяць і 3 гарадскія электрычкі.

**Брэст.** У абласную ДАІ выклікалі для тлумачэнняў больш за 10 аўтаўладальнікаў, бо на кузавах іх машын былі налепкі з "Пагоняй" і гістарычным бел-чырвона-белым сцягам.

**Светлагорск.** У райцэнтры распачалі крымінальную справу супраць 33-гадовай беспрацоўнай, якая фіктыўна па даведцы "парадзіла" двойню і атрымала 29 млн. рублёў.

**Мінск.** Міністр культуры Беларусі Павел Латушка заявіў, што ў краіне дрэнна, асабліва на месцах, выконваецца план на 2011-2015 гады па папулярызацыі роднай беларускай мовы.

**Будслаў.** Традыцыйны фэст у гонар Маці Божай Будслаўскай сёлета перанесены на 6-7 ліпеня, у наступныя гады ён будзе праходзіць у выходныя дні, каб было болей вернікаў.

# Byfly уздымае кошты з 1 сакавіка




**З 1 сакавіка РУП «Белтэлекам» (ТМ byfly) павялічвае кошт безлімітных тарыфаў («Дамасед», «Рэкорд») і пакетных прапаноў у сярэднім на 10%.**

Тарыф «Дамасед» падаражэе да 59 400 рублёў у месяц (было - 54 000), «Дамасед плюс» - да 88 000 рублёў (80 000), «Дамасед XXL» - да 110 000 рублёў (100 000), Супердамасед - да 165 000 рублёў (150 000).

Тарыф «Рэкорд 10» будзе каштаваць 220 000 рублёў у месяц (замест 200 000), «Рэкорд 15» - 275 000 рублёў (250 000), «Рэкорд 20» - 313 500 рублёў (285 000).

Кошт пакета «Эканом» павялічыцца да 63 000 рублёў у месяц (з 56 500), пакета «Універсал» - да 107 500 рублёў (з 99 500).

Аднаўленне доступу да xDSL-паслуг таксама падаражэе і будзе каштаваць 19 800 рублёў (замест 18 000).

«На працягу ўсяго мінулага года «Белтэлекам» захоўваў узровень дзейсных тарыфаў на паслугі byfly. Аднак далейшае развіццё тэлекамунікацыйных тэхналогій і забеспячэнне гарантавана высокай якасці паслуг немагчыма без мадэрнізацыі сеткі, набыцця сучаснага абсталявання, распрацоўкі найновых тэхнічных рашэнняў. Гэта прымушае кампанію ўнесці змены ў кошт тарыфных планаў», - так тлумачыць аператар павышэнне тарыфаў.

Пры гэтым, кампанія «будзе прытрымвацца пазіцыі максімальна магчымага стрымлівання росту коштаў».

Раней магчымасць і неабходнасць падвышэння коштаў найбуйным беларускім аператарам фіксаванага інтэрнэт-доступу каментаваў міністр сувязі і інфарматызацыі Беларусі Мікалай Панцялей. Ён заяўляў, што ў цэлым за год кошты плануецца павялічыць не больш чым на 19-22% (прагноз па ўзроўні інфляцыі), а таксама што павышае кошты «Белтэлекам» у тым ліку для захавання канкурэнцыі на рынку.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Кіраўніку вобласці А. Косінцу парэкамендавалі ў Мінску болей "напрягаться" на мясцовым узроўні, калі ён паскардзіўся на недахоп грошай на ўзвядзенне сучасных ферм.

**Полацк.** Рэспубліканскі аргкамітэт зацвердзіў праграму ўрачыстасцей з нагоды 1150-годдзя горада, ЮНЕСКА ўключыла гэта свята ў каляндар сусветных памятных дат.

**Руба.** Следчыя пачалі расследванне крымінальнай справы, заведзенай па факту прычынення ААТ "Даламіт" буйной матэрыяльнай шкоды ў памеры 1,7 млрд. рублёў.

**Наваполацк**. Працоўных калектыў ААТ "Нафтан" парадавала рашэнне дырэкцыі павысіць з 1 лютага зарплату 13 тысячам працуючым, сёлета перапрацуюць 10,7 млн. тон нафты.

**Віцебск.** Экс-кандыдат у прэзідэнты, былы дыпламат А. Саннікаў адмовіўся размаўляць з прадстаўнікамі пракуратуры вобласці і РБ, якія наведалі яго ў калоніі "Віцьба-3".

**Ушачы.** У аграгарадку Арэхаўна для выхавання дзяцей-сірот сёлета будзе пабудаваны 18-ты па ліку ў вобласці дзіцячы дом сямейнага тыпу, падобная ўстанова будзе і ў г.п. Відзы.

**Віцебск.** На заходні манер у горадзе стаў хадзіць бясплатны аўтобус дзякуючы мясцоваму гіпермаркету з мікрараёна Білёва ў аддалены раён Лучосы, каб прыбавілася пакупнікоў.

**Докшыцы.** У хлеве каля сваёй хаты ў вёсцы Зарэчыцк трагічна згарэў 56-гадовы інвалід 1-й групы, калі пайшоў за саломай, ён пакутваў на эпілепсію і не даў сабе паратунку.

**Верхнядзвінск.** На маляўнічым беразе Дзвіны мясцовы лясгас адкрыў свой новы ўтульны гасцінічны комплекс-драўляны церамок на 10 месц, ён стаў папулярным у паляўнічых.

**Віцебск.** Пры спробе вывезці ў РФ дзвюх віцяблянак для працы прастытуткамі на вакзале затрымалі 31-гадовага жыхара Маскоўскай вобласці, яму пагражае ад 7 да 10 гадоў турмы.

**Полацк.** Следчы камітэт РБ прад'явіў абвінавачванне 24-гадовай жыхарцы раёна за забойства ў лютым дома свайго 3-месячнага сына, ёй пагражае да 25 гадоў турмы.

**Віцебск.** З кароўніка фермерскай гаспадаркі ў вёсцы Гаркова эвакуіравалі з-за пажару 202 рагулі, агонь моцна пашкодзіў дах і перакрыццё будынка, пагалоўе у выніку пажару не пацярпела.

**Браслаў.** На пункце пропуску "Урбаны" ад мытнага афармлення 48-гадовы літовец схаваў 72 медыцынскія халаты і 52 касцюмы, кантрабандны груз коштам 16 мільёнаў рублёў канфіскавалі.

**Лепель.** Два навучэнцы ліцэя ва ўзросце 15 і 17 гадоў укралі з новага недабудаванага дома ў райцэнтры 3 секцыі радыятараў ацяплення, ім пагражае за крадзёж да 4 гадоў турмы.

**Орша.** У выніку выбуху вечарам і абвалу пліт перакрыцця ў гаражным кааператыве былі знішчаны гараж і 2 аўто, яшчэ 3 гаражы і 6 іншамарак – пашкоджаны, паранены 3 чалавекі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**У чалавека, які ўвесь час трымае сябе ў руках, узнікае своеасаблівая хвароба ... . Ён увесь час знаходзіцца ў абарончай постаці, узброены супраць самога сябе, вечны вахцёр свайго сумлення, на якое ён вырак сябе. Так, ён можа дасягнуць велічы ў гэтым! Але які ненавісны ён зараз іншым, які цяжкі самому сабе, які знясілены і адрэзаны «ад выдатных выпадковасцяў душы!**

*Ніцшэ*

# Паменшы сваё запрыгоньванне!



■ **Дз.А. Марціновіч,**
псіхолаг АСАіР ТЦСАН
тэлефон даверу 2-33-92 (ананімна і канфідэнцыяльна)

Перш, чым прыступіць да больш дэталёвага разгляду паняцця «*запрыгоньванне*», звернемся да тлумачальных слоўнікаў. У «Слоўніку сучаснай літаратурнай мовы» слова *запрыгоньванне* азначае: падпарадкавацца ўплыву каго-небудзь. Такім чынам, запрыгонены чалавек – гэта той, які знаходзіцца пад якім-небудзь уплывам. Значыць, запрыгоненым можа быць чалавек, які знаходзіцца і пад уплывам якіх-небудзь бар'ераў. Бар'еры могуць быць самыя разнастайныя: усталёўкі, сітуацыі міжасобнага ўзаемадзеяння, уласцівасці асобы. Адпаведна, калі разглядаць запрыгоньванне як уласцівасць асобы, то яно таксама, як і скаванасць, сарамлівасць, няўпэўненасць у сабе, можа стаць бар'ерам.

Як жа суадносяцца замкнёнасць, сарамлівасць, скаванасць, няўпэўненасць у сабе з запрыгоньваннем? Мы ўжо вызначыліся, што яны як бы ўваходзяць у паняцце «*запрыгоньванне*». Зараз звернемся да характарыстыкі кожнага з гэтых паняццяў. Думаю, такая ўласцівасць асобы, як *няўпэўненасць* у сабе, у дадатковай інтэрпрэтацыі не мае патрэбы. Паводле ж «Тлумачальнага слоўніка» *скаванасць* азначае: адчуванне нявольі ў дзеяннях, у выразе чаго-небудзь. Скаванасць уваходзіць у паняцце «*сарамлівасці*» і з'яўляецца як бы вонкавай праявай гэтага псіхалагічнага феномену, на візуальным, так сказаць, узроўні. *Замкнёнасць* жа вызначаецца як пазбяганне кантактаў. Сарамлівасць можа прывесці да развіцця замкнёнасці.

Найбольш блізкім з паняццяў да феномену «*запрыгоньванне*» з'яўляецца сарамлівасць. Слова «*сарамлівасць*» тлумачыцца слоўнікам Даля як: «нясмелы, залішне сумленны; недарэчна сціплы і нясмелы, нязвыклы да людзей, маўклівы». Сарамлівасць, як і іншыя бар'еры, чалавек выпрабоўвае тады, калі ўсведамляе гэта. Аднак ёсць істотнае адрозненне гэтых паняццяў адзін ад аднаго, маецца на ўвазе такая асаблівасць, як *агрэсіўнасць*. У сарамлівасці няма агрэсіі. Сарамлівыя людзі не канфліктныя. Больш таго, сарамлівасць, у пэўным сэнсе, з'яўляецца добрай рысай. Сарамлівыя людзі часта бываюць уважлівымі слухачамі, а значыць, – добрымі суразмоўцамі.

Асноўная прыкмета запрыгоньвання – абцяжаранасць у зносінах. Вядома, што зносіны могуць стаць дыялогам толькі ў тым выпадку, калі яго ўдзельнікі ўспрымаюць адзін аднаго як асобы. Толькі тады ён будзе эфектыўным, а партнёры па зносінах раскаванымі, адкрытымі і ўпэўненымі ў сабе. Гуманістычны падыход у псіхалогіі выказвае, што асоба павінна быць вольнай, разняволенай. Ну а сапраўды вольным можа быць толькі чалавек, які здольны да ўсведамлення самога сябе, усведамленню свету па-за сабой, ***які існуе ў згодзе*** з падзеямі, якія адбываюцца.

Аўтарытарны ці запрыгонены чалавек не зможа выхаваць асобу разняволеную (як правіла, мы выхоўваем сабе падобных). На жаль, занадта вялікая колькасць людзей увесь час знаходзіцца ў стане напругі, як быццам гатовыя ў любую хвіліну прыняць на сябе ўдар. Цікава, што адбываецца гэта на падсвядомым узроўні, гэта значыць, чалавек не адчувае і не ўсведамляе напружанасці, пакуль аднойчы раніцай не прачнецца і не адчуе, што ў яго баліць усё цела. Запрыгоньванне захоўваецца не толькі днём, але і ўначы. І гэта красамоўней усяго сведчыць пра тое, што ў нас увайшло ў звычку - збіраць у сваім целе хранічны стрэс і напружванне.

Чаму дрэнна быць запрыгоненым? Таму што гэта свайго роду маска, якая хавае ад астатніх ваш праўдзівы твар і ўводзіць усіх, у тым ліку вас саміх, у пэўную памылку адносна вашых рэакцый на падзеі, вашы матывы, характар і ўнутранае ўспрыманне. Прычыны вашага запрыгоньвання могуць хавацца у розных абласцях чалавечай душы. **Па-першае,** у вашай няўпэўненасці ў сабе, якая расце з самых далёкіх дзіцячых праграм і комплексаў і не дазваляе нам быць сабой. Мы баімся, што наш сапраўдны твар не спадабаецца ці не будзе ўспрыняты так, як нам трэба. ***Мы не прымаем сябе, выпрабоўваючы цалкам заканамерны страх, што гэтак жа не прымуць нас і астатнія.*** І такім чынам люта абараняемся ад магчымых насмешак, неразумення, непрымання.

**Па-другое,** у нашых чаканнях. Калі мы напоўнены чаканнем і захоплены працэсам пабудовы планаў, калі наша жыццё ўяўляе сабою выразна раскрэслены лісток календара, у якім адзначаны вехі і даты, а варыянты вольнага і непрадказальнага развіцця падзей непрымальны. Тады мы панічна баімся гэтых самых варыянтаў і заганяем сябе ў строгія рамкі чаканняў.

**Па-трэцяе,** прычына у грамадскіх стэрэатыпах паводзін і сацыяльных масках, якія мы змушаны на сябе нацягваць для найбольш эфектыўнага ўзаемадзеяння з акружаючымі. Масках, якія нам у прынцыпе не падыходзяць, цісняць, выварочваюць навыварат, нявечаць і робяць зусім чужымі нашай існасці. Мы вечна імкнёмся да недасяжнага ідэалу, спісанаму з каго заўгодна (з тэлевізійных куміраў, глянцавых вокладак, чаканняў бацькоў і сваякоў, сямейных і грамадскіх стэрэатыпаў). І вечна, як іграюцца ролі, не заўсёды ўдалыя і не заўсёды свае. Нам бы толькі прызнацца сабе, што ўсё гэта толькі маскі, і перастаць перажываць па гэтай нагодзе, але мы заўзята бачым у іх свае сапраўдныя твары. Ведаеце, чаму вялікі камедыёграф Мальер быў няўдалым акцёрам? Таму што доўгі час гуляў трагічныя ролі, з'яўляючыся геніяльным камедыйным акцёрам. Знайсці сваё амплуа, каб адыгрываць толькі сваю ролю ў жыццёвай драме – нялёгкая задача, але неабходная кожнаму з нас.

**Па-чацвёртае,** прычына можа хавацца ў некаторых асаблівасцях паводзін людзей, з якімі вы маеце зносіны, у якіх прагледжваюцца магутныя праявы снабізму і нахабства, якія вы хібна прымаеце за іх самаўпэўненасць і значнасць. І баіцеся іх яшчэ больш. Пальцы веерам – гэта не ўпэўненасць у сабе, гэта своеасаблівая праява страху перад жыццём, перад сабой і перад вамі ў тым ліку. Гэта таксама абарона ці сродак нападу. Запомніце, упэўнены у сабе чалавек нікому нічога не даказвае, гэта бачна і так.

**Па-пятае,** прычына у нашых хібных уяўленнях пра сябе, якія, на жаль, ці наўрад, адлюстроўваюць рэальную карціну падзей, а ўсяго толькі з'яўляюцца злепкам напластавання адзін на аднаго меркаванняў грамадскасці, якая навокал нас. Калі б вас спыталі, які вы насамрэч? Што б вы адказалі? Хутчэй за ўсё, што не вам пра гэта судзіць. Як можна самаго сябе ацэньваць, хай пра гэта кажуць іншыя, маўляў, гэта нясціпла. Насамрэч ніхто лепш вас не ведае, што вы сабой уяўляеце. Але вы не ўмееце ўсяго гэтага паказаць.

**Але як? Як змагацца з запрыгоньваннем:**

**1)** Перад сустрэчай ці гутаркай, якая вас хвалюе, адрэпеціруйце іх у сваім уяўленні ці перад люстэркам, паспрабаваўшы прадбачыць розныя расклады падзей і абавязкова дрэнныя. Тады ў рэальнасці вам лягчэй будзе зарыентавацца і не ўпадаць у ступар ад нечаканых зваротаў сюжэту. Папрацуйце больш за ўсё з самымі слабымі сваімі месцамі. Ёсць у вас такія? Да прыкладу, вас палохаюць лічбы. Перад важнай сустрэчай ў начальніка аддзела падсцяліце сабе саломкі з калькулятарам у руках, каб нечаканы пытанні шэфа не заспелі вас знянацку. Будзьце гатовыя, тады ніхто не зможа вас збянтэжыць, калі толькі не будзе рабіць гэтага адмыслова, ведаючы пра вашы слабыя месцы.

**2)** Часцей трапляйце ў сітуацыі збянтэжанасці! Так, клін клінам выбіваюць. Гэтак жа і тут. Чым часцей вы будзеце прымушаць сябе бянтэжыцца, тым хутчэй пазбавіцеся ад гэтага мілага недахопу. Не так страшны чорт, як яго малююць. А можа быць, ён страшны толькі ў першы і другі раз, а потым з яго абліччам звыкаешся і нават знаходзіш яго цалкам сімпатычным. Вы баіцеся размаўляць з незнаёмым чалавекам – рабіце гэта часцей! Вы баіцеся быць перад людзьмі – паспрабуйце прадставіць іх у сітуацыі простай і жыццёвай і зразумейце ўсёй душой, што яны такія ж, як і вы, і валодаюць велізарнай колькасцю слабасцяў і недахопаў, але гэта не замінае ім здавацца такімі важнымі. Наперад! Майце зносіны па тэлефоне і візуальна як мага часцей!

**4)** Часцей майце зносіны з асобамі, якія вас пужаюць, папярэдне прадставіўшы іх у штодзённым становішчы. Напрыклад, у тэпціках ці махрыстым халаце, якія робяць рамонт ці прабачце, на ўнітазе. Ведаеце, вельмі дапамагае перааддолець сарамлівасць. Можна прадставіць іх у смешнай ці дурной сітуацыі. Напрыклад, як бы яны выглядалі, калі б зваліліся з гэтага крэсла нагамі ўгару на вачах усіх. Гэта яны толькі робяць выгляд, што такія важныя і сур'ёзныя. Насамрэч няма нікога больш бездапаможнага і слабага, чым сур'ёзны чалавек у смешнай сітуацыі. ***Па-сапраўднаму моцныя і разумныя людзі вясёлыя і прастадушныя, ім няма чаго напускаць на сябе грозны выгляд і пыхкаць для большай важнасці. Яны і самі гэтага не робяць і вам не дазволяць, таму што гэта зусім не трэба. Яны ведаюць, што ўсё гэта ўмоўнасці.*** Але такія людзі сярод кіраўнікоў сустракаюцца вельмі рэдка. Галоўным чынам, у бізнэсе, ды і ўсюды, мы сутыкаемся з тонка арганізаванай гульнёй «хто каго». Гуляйце ў яе, толькі выразна ўсведамляйце, што вы гэта робіце. Аддавайце сабе ў гэтым справаздачу, і ўсё будзе ў парадку. Гэта нават у нейкай ступені цікава, назіраць, як усё адзін перад адным штосьці такое спрабуюць намаляваць.

**5)** Не зневажайцеся, не мітусіцеся. Паводзьце сябе спакойна і з добрай якасцю, калі выразна ведаеце, што вы правы, але прызнайце сваю віну таксама спакойна і з добрай якасцю, калі правініліся. Рэагуйце адэкватна, што падказвае вам ваш унутраны стан гармоніі, які вам яшчэ трэба ў сабе знайсці і ўсвядоміць.

Напэўна, самае цяжкае, заставацца сабой і пры гэтым гуляць у чужыя гульні. Але калі вы пазбавіцеся ад сваіх страхаў, нічога займальней, паверце, вы ў жыцці не знойдзеце: назіраць за мышынай валтузнёй і вонкава ўдзельнічаць у ёй, але глыбока ўсярэдзіне сябе ўсведамляць, што ўсё гэта толькі ілюзія сапраўднага жыцця. За яе кулісамі, без грыму, без масак, сам-насам з самім сабой вы раскладзяце ўсе гэтыя мізансцэны па палічках і зразумееце, што бянтэжыцца і перажываць па гэтай нагодзе наогул не варта ніколі.

■ **Аляксандр Івашчонак,** *бакалаўр гісторыі.*

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

# Мястэчка Глыбокае

## Глыбоцкае Брацтва Маці Божай Шкаплернай

У мястэчку Глыбокім акрамя брацтва сьв. Язэпа, пра якое ўжо была мова ў папярэднім нумары, існавала таксама яшчэ адно шкаплернае брацтва – Брацтва Маці Божай Шкаплернай. Гэтае брацтва было закладзена 17 лістапада 1753 г. са згоды віленскага біскупа Юрыя Тышкевіча. Сваёй структурай гэтае брацтва было падобнае да Брацтва сьв. Язэпа. Мела свой статут і кіраўніцтва, а таксама манаха-прамотара, які быў адказны за духоўныя справы членаў брацтва. Дарэчы айцец Нарцыз Валыньскі, кармэліт босы з Глыбокага, які быў прамотарам Брацтва сьв. Язэпа, быў таксама і прамотарам брацтва Маці Божай Шкаплернай, члены якога таксама прынялі актыўны ўдзел у паўстаньні 1831 г. у Глыбокім.

Варта прыгадаць, што членамі брацтва не былі духоўныя асобы, так як брацтва было супольнасьцю сьвецкіх людзей, якія мелі жонак, мужоў, дзяцей. Гэта былі звычайныя вернікі, для якіх свая вера была не абыякавай, а ў якой бачылі сэнс свайго жыцьця. Уступалі ў брацтва з розных прычын. Перш за ўсё, дзеля адпушчэньня кары чысьцілішча (адпуст зьвязаны з брацтвам), уступалі таксама дзеля таго, каб пасьля сьмерці члена брацва, іншыя члены былі абавязаныя за яго маліцца і таксама закупіць імшу. Па-трэцяе, ў тыя часы брацтва было адзінай формай удзелу звычайных вернікаў у рэлігійным жыцьці Касьцёла ў больш глыбокай форме, гэта значыць, што звычайны бацька ці матка, якія маюць сваю сям'ю і свае абавязкі, маглі пасьвяціцца служэньню Богу па прыкладу манахаў, толькі на меншым ўзроўні. І на прыканцы, брацтва было першай і адзінай грамадскай арганізацыяй, якая спрыяла кансалідацыі жыхароў мястэчка, спрыяла стварэньню цесных паміжлюдзкіх сувязяў, так як брацтва збірала ў сабе больш - менш падобных людзей, якія маюць падобныя мэты дый ідэалы. Члены брацтва дапамагалі адзін аднаму, маліліся адзін за аднаго. Аднак трэба памятаць, што асноўнай прычынай уступленьня ў брацтва былі адпусты. Варта зазначыць, што ўсё жыцьцё людзей XVII - XVIII стст. было накіраванае на жыццё вечнае, таму ўсё, што рабілася ў тыя часы, усё рабілася толькі з адной думкай – ратаваньне сваёй душы – толькі гэта было мэтай кожнага чалавека ў тыя часы.

Вяртаючыся да самаго Брацтва Маці Божай Шкаплернай, варта падкрэсьліць, што было яно найбольш уласным брацтвам Кармэлітаў, найбольш тыповым, так як нябеснай апякункай Кармэлітаў зьяўляецца менавіта Маці Божая Шкаплерная, урачыстасьць якой сьвяткуецца 16 ліпеня. У Глыбокім у XVIII ст. гэта было найвялікшае сьвята, так як гэта было сьвята Кармэлітаў, а акрамя того, у Глыбокім знаходзіўся цудадзейны вобраз Маці Божай Шкаплернай, названы глыбачанамі Падхорнай[1], так як знаходзіўся ў капліцы пад хорам у касьцёле Кармэлітаў. У гэты дзень ў Глыбокае прыходзіла шмат пілігрымаў-паломнікаў. Менавіта гэты алтар, у якім знаходзіўся цудадзейны абраз Маці Божай Падхорнай, належаў Брацтву Маці Божай Шкаплернай.



**Герб глыбоцкага Брацтва Маці Божай Шкаплернай. Срэбра, ракако, Глыбокае XVIII ст.**

І менавіта члены гэтага брацтва апекаваліся гэтым алтаром, прымалі імшальныя інтэнцыі і ахвяры, прыймалі і апекаваліся паломнікамі, якія прыходзілі памаліцца перад цудадзейным абразом ня толькі ў сьвята 16 ліпеня, але таксама на працягу ўсяго года. Зараз для арганізаваньня й прыманьня паломнікаў ствараюць розныя арганізацыі, просяць ахову, ваенных аб дапамозе, а ў Глыбокім ужо ў XVIII ст. усё было прадумана і запланавана – створанае адмысловае брацтва, якое ахоплівала вельмі веруючых і адданых людзей, якія бачылі сэнс свайго зямнога жыцьця менавіта ў паслузе іншым, у апецы над алтаром цудадзейнага абраза Маці Божай Падхорнай, апецы над паломнікамі, дапамозе манахам, апецы над хворымі ў шпіталі пры кляштары Кармэлітаў і г.д.

Варта зазначыць, што гэтае брацтва не было жменькай набожных людзей. Не, гэта была добраарганізаваная супольнасьць веруючых, якія мелі свайго прэфекта, намесьніка, сем дарадчыкаў, двух арбітараў, скарбніка, сакратара, закрысціяна, пракуратара алтара, харужага, ялмужнікаў, маршалкаў, інфэрмераў. Ужо судзячы толькі па абавязках, можна сьмела сказаць, што брацтва лічыла найменей каля 30 чалавек. Варта памятаць, што ў Глыбокім былі тры такія брацтвы: сьв. Язэпа, сьв. Барбары і Маці Божай Шкаплернай.



**Колішні кляштар Кармэлітаў з сонечным гадзіньнікам на сьцяне. (Справа – павялічаны фрагмэнт). Унізе – кляшторная сажалка. На месцы сажалкі цяпер – кансэрвавы завод**. *Фота Леанарда Рачыцкага, 1930-ыя гг.*



Акрамя ўсяго вышэй пералічанага, члены Брацтва Маці Божай Шкаплернай, таксама як і члены Брацтва сьв. Язэпа ў Глыбокім, павінныя былі кожную нядзелю, пасля першай імшы (а 08.00 з выстаўленьнем Найсьвяцейшага Сакрамэнту з суплікацыяй) сьпяваць Каронку да Маці Божай Шкаплернай – жанчыны і мужчыны напераменку, а таксама а 15.00 сьпявалі нядзельныя нешпары (вячэрня), а пасьля іх, у капліцы Маці Божай Падхорнай, члены брацтва сьпявалі Каронку *"Kto chce Pannie Maryi służyć"*.

А ў вялікія сьвяты члены брацтва разам з манахамі прымалі ўдзел у працэсіях перад суммай (апошняя недзельная імша, якая адпраўлялася а 11.30) і нешпарамі.

Брацтва Маці Божай Шкаплернай у Глыбокім спыніла сваё існваньне ў 1864 г., калі быў зачынены кляштар Кармэлітаў.

На жаль, сёньня ў Глыбокім вельмі цяжка сустрэць такога тыпу арганізацыі, а ўжо тым больш такога тыпу людзей, якія прысьвячалі ўсё сваё жыцьцё бескарысьліваму служэньню Богу й людзям. Шкада, але гэтыя людзі – члены брацтваў – былі нашымі продкамі. Сёньня шукаем розных ідэалаў, а браць прыклад з нашых разумных і богабойных прашчураў ня хочам.

[1] Больш падрабязна пра цудадзейны вобраз Маці Божай Падхорнай – у наступным нумары.

*Працяг будзе.*

# Міжнародная парламенцкая стыпендыя з практыкай у Германскім Бундэстагу ў 2013 годзе

**Кожны год Германскі Бундэстаг і тры берлінскія ўнівэрсітэты прадастаўляюць прыкладна 120 маладым людзям з 28 краін магчымасць на працягу пяці месяцаў пазнаёміцца з працэсам прыняцця палітычных рашэньняў і атрымаць практычны досвед у сферы парламенцкай дзейнасці ў Германіі.**

Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS) прадугледжана для выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў, якія цікавяцца палітыкай, актыўна займаюцца грамадскай дзейнасцю і маюць вельмі добрыя веды нямецкай мовы.

На момант пачатку праграмы яны павінны быць не старэйшымі за 30 гадоў.



Стыпендыяты змогуць прайсці 15-тыднёвую стажыроўку ў аднаго з дэпутатаў Германскага Бундэстага. Міжнародная парламенцкая стыпендыя доўжыцца з 1 сакавіка па 31 ліпеня 2013 г.

Стыпендыя ўключае расходы на праезд, пражываньне і медыцынскую страхоўку, а таксама штомесячную суму на харчаванне.

Заяўкі на ўдзел у конкурсе прымаюцца да 30 чэрвеня 2012 г. у Пасольстве Германіі ў Мінску.

Больш падрабязную інфармацыю Вы знойдзеце на сайтах Пасольства Германіі ў Мінску www.minsk.diplo.de і Германскага Бундэстага http://www.bundestag.de/IPS

*УНН 101166185.*

■ **А.І. Гігола**,
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

# Як засцерагчы свой дом ці кватэру

Кватэрныя крадзяжы - біч сённяшняга часу. Прычым, частка кватэрных крадзяжоў справакавана самімі гаспадарамі жылля: сын пахваліўся сябрам новай дарагой апаратурай, жонка ў гутарцы з прыяцелькай згадала пра шыкоўныя набыцці і г.д. Як жа засцерагчы свой дом ці кватэру ад «дамушнікаў»? Як гаварылася вышэй, трэба быць абачлівымі ў выбары знаёмых і не балбатаць лішняга, сачыць, каб вакол вашага дзіцяці не круціліся падазроныя асобы: патрэбныя адрасы дамушнікі вылічаюць і праз дзяцей, праз вашых знаёмых. Перад сыходам з дому, праверце, ці шчыльна зачыненыя балконныя дзверы, вокны і фортачкі.

Не пакідайце ключ ад кватэры пад кілімком, у паштовай скрыні, ці іншых месцах, дзе яго без цяжкасцяў могуць знайсці староннія.

Вокны на першых паверхах лепш трымаць зашторанымі – менш цікаўных поглядаў. Шчыльна зашторваць вокны варта і на іншых паверхах, калі ідзе рамонт дома і ваш дом ў будаўнічых рыштаваннях, ці побач разгарнулася будоўля.

З'язджаючы надоўга з горада, не паведамляйце старонннім пра свае планаваныя паездкі, з мэтай імітацыі прысутнасці ў кватэры пакіньце ўключаным трансляцыйны радыёпрыёмнік ці набудзьце адмысловую прыладу, якая перыядычна ўключае і выключае святло, імітуе гутарку, брэх сабакі. Дамоўцеся са сваякамі ці з суседзямі забіраць з вашай паштовай скрыні карэспандэнцыю: газеты і часопісы, якія праляжалі ў скрыні дзень-два – «зялёнае святло» дамушнікам.

Дарэчы, суседская салідарнасць – адна з лепшых мер засцярогі: не бывае так, каб хоць бы адзін насельнік дома не заўважыў, як грузяць вынесеныя з пад'езда дываны, халадзільнікі, апаратуру. Калі вас штосьці насцярожвае, набярыце 102.

Абараніць ваша жыллё і маёмасць ад замахаў кватэрных злодзеяў дапамогуць і тэхнічныя сродкі – краты на вокнах, замкі, сігналізацыя.

Вельмі эфектыўнай формай абароны ад пранікнення старонніх у кватэру з'яўляецца таксама ўтрыманне сабакі. Краты на вокнах павінны быць усталяваны, першым чынам у кватэрах, размешчаных на першых і апошніх паверхах, а таксама прылеглых да пажарных лесвіцаў і вадасцёкавых трубаў.

Але больш за ўсё мэтазгодна абсталёўваць кватэру аўтаномнай сігналізацыяй, якая пры пранікненні ў кватэру выдае гукавы сігнал. Як паказвае практыка, у гэтым выпадку злачынец, як правіла, адмаўляецца ад сваіх намераў: тэхнічныя сродкі аховы – гэта самая непрыемная «неспадзеўка» для злодзея.

А калі злодзеі ўсё-такі прабраліся ў ваш дом, хай яны сыдуць хоць бы без грошай. Ні ў якім разе, не хавайце грошы, каштоўнасці, золата ў бялізну, у духоўку, у пральную машыну і пад плінтусы – тут іх шукаюць першым чынам. Трымайце грошы некалькімі часткамі ў розных месцах, а на выпадак вашага ад'езду з дома на працяглы час, каштоўныя рэчы і зусім здайце на захоўванне. Можна набыць хатні сейф, усталяваўшы яго ў «зацішным» месцы, надзейна замацаваўшы пры гэтым яго да падлогі ,і захоўваць каштоўнасці ў ім.



■ **А.В. Протас** ,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Ізноў нагадваем: з 1 сакавіка лавіць шчупака забаронена!

**У Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету працягваюць звяртацца грамадзяне, рыбаловы-аматары, з просьбай растлумачыць інфармацыю пра тое, ці могуць быць падоўжаны тэрміны лоўлі шчупака ў сакавіку месяцы.**

Паводле Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь, у выпадку змены пагодных умоў, якія ўплываюць на размнажэнне рыбы, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа прыняць рашэнне пра змену тэрмінаў забароны, усталяваных згаданымі вышэй Правіламі, як на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, так і ў асобных абласцях, не памяншаючы пры гэтым агульную працягласць забароны. У цяперашні момант, ніякіх дадаткаў і змен няма, а таму з 1 сакавіка настае забарона на лоўлю шчупака.

Грамадзяне, затрыманыя ў рыбалоўных угоддзях з асобінамі шчупака, будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь, а за ўрон за вылаўленую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры ці 105 тысяч за адну асобіну шчупака. У выпадку, калі сума прычыненай шкоды будзе перавышаць 40 базавых велічынь, у адносна парушальніка ўзбудзяць крымінальную справу.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя растлумачвае гэтак жа, што паводле Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у выпадку ўзнікнення ў рыбалоўных угоддзях заморных з'яў, пацверджаных дадзенымі гідрахімічных даследаванняў, праведзеных атэставанымі лабараторыямі, парадак і ўмовы ажыццяўлення лоўлі рыбы вызначаецца мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі па ўзгадненні з тэрытарыяльнымі органамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і са структурнымі падраздзяленнямі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

У апошні тыдзень лютага супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі затрыманы 8 парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, з іх 4 парушальнікі за забруджванне, выкід смецця. Маюцца выпадкі заезду транспартных сродкаў на ледзяны полаг, што катэгарычна забаронена правіламі рыбалоўства. Штраф за дадзенае парушэнне да 20 базавых велічынь.

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце звярнуцца на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі : 2-86-70 ці маб. 897-23-02; 890-55-28; 249-45-49.



## МНС інфармуе
**на 28.02.2012 года**:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 272;
Гібель людзей – 40, з іх 2 дзіцяці;
Урон – 1414,2 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 18;
Гібель людзей – 3, з іх дзяцей няма;
Урон – 108 550 000 руб.

# Поспех глыбоцкіх самбістаў




■ **Яўген Самсонаў**

Не пасаромілі гонар Глыбоччыны і, у прыватнасці, наш РАУС глыбоцкія самбісты Міхась Цынковіч і Сяргей Цырбан. На чэмпіянаце Віцебскай абласной арганізацыйнай структуры БФСТ "Дынама" па самба сярод сілавых структураў (пагранічныя войскі, дзяржаўная мытня, Савет бяспекі МУС, МНС, УКДБ, фінансавая міліцыя), які адбыўся 17 лютага ў Віцебску, М. Цынковіч у вагавай катэгорыі да 90 кілаграмаў заняў другое месца, а С. Цырбан у вагавай катэгорыі 68 кілаграмаў – чацвёртае. У агульнакамандным заліку спарцмены Глыбоцкага РАУС заваявалі трэцяе месца.

У сакавіку Міхась Цынковіч возьме ўдзел у абласных зборах за права прадстаўляць гонар Віцебскай вобласці на чэмпіянаце краіны сярод сілавых структураў.





## Віншаванкі

Віншуем
*Аляксандра Віктаравіча Скрагу*
з 25-годдзем!

25- выдатны ўзрост: і не шмат, і не мала,
Для кахання і для працы толькі самы пачатак,
Цяжкі жыцця шлях ці просты, не дадзена яго вымераць,
Дык сустракай жа лёс у рост, а не стоячы на каленах.

*Мама, тата, сястра, швагер, пляменнік*

